*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 34(80) ◈ 26 жніўня 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ

**СПОЎНІЛАСЯ 600 ГАДОЎ З ЧАСУ ПРЫХОДУ ДА ЎЛАДЫ ВІТАЎТА ВЯЛІКАГА**, які вёў паспяховую барацьбу з польскай і маскоўскай экспансіяй, з тэўтонамі і татарамі. Найбольшую славу здабыў Вітаўт, калі ў 1410 годзе пад Грунвальдам былі разгромлены нямецкія рыцары.

***СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ І АКАДЭМІК РЭСПУБЛІКАНСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК АНАТОЛЬ МІХАЙЛАЎ НАВЕДАЛІ ПАЎДНЁВУЮ КАРЭЮ,*** *дзе прынялі ўдзел у пасяджэнні палітычных лідэраў дзяржаў па праблемах сучаснага свету.*

**Ў МАЛАДЗЕЧНЕ ПРАЙШЛА МІЖНАРОДНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ «ФАРМІРАВАННЕ І РАЗВІЦЦЁ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ САМАСВЯДОМАСЦІ БЕЛАРУСАЎ»**, у якой прынялі ўдзел гісторыкі, этнографы, лінгвісты, літаратуразнаўцы з Англіі, Аўстрыі, Беларусі, Германіі, ЗША, Канады, Польшчы, Расіі, Славеніі, Украіны і Швейцарыі.

***НА СТЫКУ ЗЯМЕЛЬ ТРОХ КРАІН— БЕЛАРУСІ, ЛАТВІІ І РАСІІ*** *— у Верхнядзвінскім раёне ля Кургана Дружбы тры дні працаваў міжнародны лагер «Бе-ла-русь». Былі праведзены творчыя сустрэчы, спартыўныя спаборніцтвы, фестываль бардаўскай песні.*

**КІРАЎНІЦТВА БЕЛАРУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ГРАМАДЫ СУСТРЭЛАСЯ З ДЭЛЕГАЦЫЯЙ ПРАФСАЮЗАЎ ДАНІІ НА ЧАЛЕ З ГЕОРГАМ ЛЕМКЕ.** Адбыўся абмен інфармацыяй аб сучасным прафсаюзным і сацыял-дэмакратычным руху ў абедзвюх дзяржавах.

***У МІНІСТЭРСТВЕ ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЗАРЭГІСТРАВАНА НОВАЯ ГРАМАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ*** *— «Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ».*

**У ДРУКУ З'ЯВІЛІСЯ МАТЭРЫЯЛЫ ДЗЯРЖКАМСТАТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Паводле падлікаў, колькасць насельніцтва нашай краіны на жнівень гэтага года склала каля 10,3 мільёна чалавек.



## *Беларускі прэм'ер супраць беларускасці?*

*Стар. 2*



## МЫ НЕ ЗЛАЧЫНЦЫ ПЕРАД БЕЛАРУСКІМ НАРОДАМ

*Стар. 3*

На Брэсцкай мытні, што знаходзіцца на чыгуначным вакзале, па-ранейшаму ажыятаж. Тут за суткі адпраўляюць і сустракаюць 36 цягнікоў. Усяго ж за дзень праз мытню праходзіць 12—13 тысяч чалавек. І хаця ў пашпартах «вандроўнікаў» значацца ў асноўным турыстычныя і службовыя візы, багаж у іх складаецца з вялікіх чамаданаў, баулаў, торбаў. Правесці праз мяжу забароненае хочуць многія, таму працы ў мытнікаў не змяншаецца.

**На здымку:** інспектары мытні Антаніна Канавалюк і Міхась Юдовіч выявілі кантрабанду — прыбор начнога бачання з лазернай прыстаўкай.

**Фота Эдуарда КАБЯКА. (Белінфарм).**

*У суполках ТБМ*

# Абуджаючы нацыянальную годнасць

Маладзечанскае гарадское аддзяленне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны было заснавана ў верасні 1989 года. За гэты час яно зрабіла шмат, прапагандуючы роднае слова, абуджаючы ў маладзечанцаў нацыянальную годнасць і пашану да гістарычнай спадчыны беларускага люду. Я папрасіў старшыню рады гарадскога аддзялення ТБМ Л. А. Цімохіна расказаць пра работу і клопаты арганізацыі.

Вось што ён паведаміў:

Наша рада рупіцца, каб роднае слова часцей гучала ў школах, на прадпрыемствах і ва ўстановах, шырока прапагандаваліся творы беларускай літаратуры і мастацтва. Рада клапоціцца пра пачынаючых паэтаў і празаікаў, рэгулярна праводзячы з імі літаратурныя заняткі. Наша літаратурнае дзіцячае аб'яднанне «Праменьчык» шмат робіць, каб у ім выхоўваліся літаратурныя таленты, адданыя роднаму слову. Таму і не дзіўна, што літаратурныя творы нашых выхаванцаў друкуюцца пастаянна не толькі ў мясцовым, але і ў рэспубліканскім перыядычным друку. Штогод мы праводзім конкурсы маладых талентаў, на якіх робім літаратурныя агляды, адзначаем лепшыя творы дзяцей грашовымі прэміямі і каштоўнымі падарункамі, прапаноўваем іх у друк, арганізоўваем літаратурныя старонкі. Часта нашыя юныя паэты і празаікі выступаюць са сваімі творамі перад зацікаўленымі слухачамі і рэгулярна — на нацыянальных святах краіны, на юбілейных вечарах, прысвечаных класікам роднай літаратуры.

Намаганнямі ТБМ часта арганізоўваюцца і праводзяцца экскурсіі і падарожжы па гістарычных мясцінах нашага краю. Рада паклапацілася і пабудавала капліцу на старых зруйнаваных могілках горада. Мы не толькі прапагандуем роднае слова, але і шчыра клапоцімся пра сімволіку Беларусі. Зараз актыўныя сябры ТБМ мастакі С. Палівода і Г. Селядзец заняты вырабам дзяржаўнай сімволікі для прадпрыемстваў, установ і школ горада, раёна. Па ініцыятыве і пры непасрэдным удзеле ТБМ у Палачанскую царкву была вернута святая Груздаўская ікона, якая заняла там сваё ранейшае пачэснае месца.

Якія ў нас далейшыя планы? І надалей прапагандаваць роднае слова, толькі больш актыўна і мэтанакіравана. Будзем імкнуцца, каб справаводства ва ўсіх установах і на прадпрыемствах горада як мага хутчэй пачало весціся на роднай мове. Будзем рабіць захады, каб на іх пачалі працаваць курсы па вывучэнню беларускай мовы. У рабоце нам дагэтуль замінала тое, што мы не мелі памяшкання. Цяпер яно ўжо ёсць. І работа наша значна актывізуецца. Плануем і неўзабаве адчынім у горадзе свой кіёск, у якім будзем прапаноўваць пакупнікам беларускую сімволіку, творы тутэйшых мастакоў, вырабы народнага мастацтва, кнігі беларускіх паэтаў і празаікаў, перыядычныя выданні. І, вядома, будзем часцей наладжваць сустрэчы дзеячаў беларускай літаратуры, навукі і культуры з жыхарамі нашага горада. А прапагандаваць роднае слова, каб яно заняло сваё пачэснае месца ў паўсядзённым жыцці, — наша галоўная задача.

**М. КАПЫЛОВІЧ.**

*WIS*

*У школах Менска працуюць 30 беларускіх тэатральных калектываў, 23 беларускія гасцёўні, 15 аркестраў народных інструментаў, больш за 100 дзіцячых хароў і танцавальных ансамбляў.*

*У мінулым навучальным годзе з 5067 школ рэспублікі 3278 (64,7 працэнта) былі з беларускай мовай навучання, 911 (18 працэнтаў) — з рускай, 878 (17,3 працэнта) — з дзвюма мовамі навучання. 69815 першакласнікаў (43,7 працэнта) вучыліся па беларускамоўнай праграме. У 1991/92 навучальным годзе 33,4 працэнта дашкольнікаў наведвалі беларускамоўныя ўстановы.*

# Беларускі прэм'ер супраць беларускасці?

Ужо колькі месяцаў «скланяецца» ў газетах імя кіраўніка ўрада Беларусі В. Ф. Кебіча за тое, што ён не выконвае сваё ўрачыстае абяцанне выступаць і размаўляць па-беларуску. Але мне ніводнага разу не давялося прачытаць яго адказ на гэту крытыку. Апраўданні ж накшталт таго, што памочнікі не паспелі перакласці выступленне на дзяржаўную мову, наўрад ці можна ўспрымаць сур'ёзна. А вось змест гутаркі прэм'ера па пытаннях беларушчыны з чытачамі «Советской Белоруссии», надрукаванай у газеце ад 15 ліпеня, заслугоўвае асаблівай увагі.

Адразу скажу, што і пытанні і адказы на гэтую тэму не выклікалі ў мяне добрых пачуццяў. Наадварот, непакой за будучыню нашага Адраджэння толькі ўзрос. Справа нават не ў тым, што шавіністычна настроеныя рускія і абруселыя беларусы (будзем называць рэчы сваімі імёнамі) зноў і зноў топчуць кволыя парасткі беларушчыны, — гэта, на жаль, для нас з'ява звыклая. Асабліва непакоіць, што гэтыя людзі знаходзяць, як мне здаецца, узаемаразуменне з прэм'ерам, знаходзяць нават яго падтрымку.

Мяркуйце самі. Адзін чытач палічыў, што нарыс ваеннай гісторыі Беларусі «Забытая слава» «пропитан антирусскими настроениями». І запытаў: чаму такі матэрыял надрукаваны ў газеце, заснавальнікам якой з'яўляецца Савет Міністраў рэспублікі? Паважаны Вячаслаў Францавіч, безумоўна, ведае, што доўгі час Масква забараняла абнародаваць гістарычныя факты з жыцця беларусаў, якія супярэчылі міфам аб іх вечнай дружбе з рускімі. Дагэтуль нам нельга было ведаць, напрыклад, аб тым, што рускія князі, захопліваючы беларускія гарады, тапілі іх у крыві, што беларусы станавіліся рабочым «скотом» у рускіх вяльмож, што на нашай зямлі жорстка прыгняталася ўсё беларускае...

На жаль, В. Кебіч нічога не сказаў пра гэта, як і пра тое, што праўда не павінна залежаць ад настрояў тых альбо іншых груп людзей ці слаёў насельніцтва. Заўважыўшы, што «Забытая слава» — не рэдакцыйны артыкул і што ў нас — плюралізм, ён параіў чытачу ўступіць у палеміку з групай беларускіх вучоных на чале з вядомым спецыялістам па ваеннай гісторыі М. Ткачовым, якая падрыхтавала нарыс. Параіў прысылаць свае нататкі ў рэдакцыю для публікацыі. Далей цытую дыялог. Чытач: «Но я же не учёный...» В. Ф. Кебіч: «Это не имеет никакого значения...» (!)

Сапраўды, раней, калі кампартыя хацела абяліць чорнае або ачарніць белае, не мела ніякага значэння, ведае ці не «просты савецкі чалавек» прадмет, аб якім яму трэба напісаць або толькі штосьці падпісаць. І тады з'яўляліся да болю знаёмыя фразы: «Я гэтую кнігу не чытаў, але ўпэўнены, што яна надта шкодная для нашага народа». Дык што, зноў будзем паўтараць пройдзенае?

Завяршаючы размову пра нарыс «Забытая слава», прэм'ер-міністр сказаў: «А лично моё мнение таково: я националистических взглядов не разделял, не разделяю и никогда разделять не буду». Вельмі добрыя словы! Невыпадкова рэдакцыя вынесла іх у загаловак першага блока пытанняў-адказаў, аб якім ідзе ў нас гаворка. Пад імі, не сумняваюся, могуць падпісацца мільёны нашых грамадзян. Справа толькі ў тым, што лічыць нацыяналістычнымі поглядамі. Асабіста ў мяне стваралася ўражанне, што Вячаслаў Францавіч не супраць таго, каб узяць на ўзбраенне метад, які добра вядомы з недалёкага мінулага, калі нацыяналістычныя ярлыкі вешалі на кожнага, хто дбаў пра адраджэнне роднай Беларусі.

Але пойдзем далей. Чытачка паведаміла, што ёй «стало не по себе», калі пазнаёмілася з адной маленькай газетнай нататкай. Што ж так напалохала жанчыну? Аказваецца, тое, што, мабыць, прыйдзе час, калі і ў нас, на Беларусі, назвы прыпынкаў на транспарце, а таксама на вакзалах будуць абвяшчацца па-беларуску. Дый шыльды з назвамі дзяржаўных структур, можа, стануць афармляць на дзяржаўнай мове. Праект адпаведнай урадавай пастановы распрацавалі народныя дэпутаты З. Пазьняк і Л. Баршчэўскі.

Мне давялося пабываць больш як у дзесяці краінах Еўропы. І ўсюды робіцца так, як запісана ў згаданым праекце. Напрыклад, у Англіі ўсе шыльды, тэксты аб'яў, афіш, рэклам і г.д. выкананы, безумоўна, на англійскай мове, а ў Францыі — на французскай. І людзі іншых нацыянальнасцей, якіх там нямала, ставяцца да гэтага з разуменнем. Што да Беларусі, то распрацаваны праект — не выдумка дэпутатаў ад апазіцыі БНФ, а патрабаванне Закона аб мовах. Таму не зусім зразумела, што меў на ўвазе прэм'ер, калі гаварыў чытачцы: «Принимаю к сведению ваше мнение». Можа, гэты праект зазнае тую ж долю, што і іншыя прапановы БНФ?

Няхай прабачыць мне паважаны Вячаслаў Францавіч, але калі чытаеш яго адказы па пытаннях беларушчыны, здаецца, што гэта гаворыць не старшыня ўрада суверэннай краіны, а высокапастаўлены чыноўнік, якога прыслалі з Масквы, каб павучаць не вельмі кемлівых тутэйшых. А мо ўжо хопіць павучанняў?

Адказваючы на пытанне вайскоўца, В. Ф. Кебіч быццам заклікае: «Должно существовать и право граждан общаться на русском языке». Ці трэба яшчэ раз нагадваць, што гэтае права ніколі, нікім і нідзе ў Беларусі не аспрэчвалася і гарантуецца дзеючым заканадаўствам?

На «великом и могучем» у нас выдаецца, калі я не памыляюся, тры чвэрці ўсёй літаратуры. У многіх кнігарнях беларускай кнізе адведзены невялікі і непрыкметны куточак. А дзе кінафільмы на беларускай мове? Большасць газет і часопісаў рэспубліцы зноў жа выходзіць на рускай мове, на ёй вядзецца і значная частка тэле- і радыёперадач. Усім добра вядома пануючае становішча мовы суседняй дзяржавы практычна ва ўсіх сферах нашага жыцця. А В. Ф. Кебіч у гутарцы з чытачом яшчэ і яшчэ раз патрабуе: «Нельзя игнорировать большую категорию людей, проживающих в нашей республике и знающих лишь этот язык». Божа мой, няўжо давядзецца выпрацоўваць якісьці асаблівы статус для гэтай катэгорыі людзей?

Гвалтоўная русіфікацыя Беларусі ў мінулыя дзесяцігоддзі прывяла да таго, што мова карэннай нацыі аказалася ў жахлівым стане. Зараз супраць яе рыхтуецца новы паход. Старшыня Савета Міністраў не выкарыстаў магчымасці асудзіць тых, хто хоча рэвізаваць памяркоўны і дэмакратычны Закон аб мовах, увесці афіцыйнае двухмоўе і тым самым канчаткова пахаваць светлую надзею на лепшую долю роднай беларускай мовы.

**Г. ЛАГУНОВІЧ.**

## БАРДАЎСКІ ФЭСТ

*8 верасня 1514 года пад Воршай, дзе з Дняпром зліваецца, рачулка Крапіўна, адбылася бітва, у якой вырашаўся гістарычны лёс беларусаў ды іншых народаў Вялікага княства Літоўскага. 35 тысяч беларускіх вояў ушчэнт разграмілі 80-тысячнае войска маскоўскіх інтэрвентаў. На жаль, да нядаўняга часу мала хто на Беларусі ведаў пра гэту падзею, але ўжо ў мінулым годзе на Крапівенскае поле з'ехаліся хлопцы і дзяўчаты з гітарамі і правялі першы фэст бардаўскай песні.*

*5 верасня на Крапівенскім полі адбудзецца чарговы бардаўскі фэст «Бітва пад Воршай — 92». Тых, хто жадае прыняць удзел у свяце, 5 верасня на аршанскім вакзале ад 9-ай да 12-ай гадзіны будзе чакаць аўтобус. Кантактны тэлефон у Воршы: 2-02-30; 2-00-74 (сп. Мельнікаў), 2-45-42 (сп. Шутаў).*

*Рэха*

## Пра так званую «знявагу» і непавагу да спадчыны

Важную навіну паведаміў нам чытач «Нашага слова» (№ 28, 1992) Міхаіл Маліноўскі, праўдзейны член Геаграфічнага таварыства. Аказваецца, называць Беларусь «краем» — гэта «знявага». «Край — гэта буйная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка, вобласць». Прачытаў я гэта — і як назло мне на памяць усплылі радкі Якуба Коласа: «Ці ж над родным нашым краем промень волі не бліснаў?» А потым: «О, край родны, край прыгожы, мілы кут маіх дзядоў...» Мне ўсё лезуць і лезуць у галаву гэтыя — ну, як іх назваць? — зняважлівыя ці шкодныя радкі песняра. А за імі следам успамінаецца Канстанцыя Буйло з яе песняй «Люблю наш край, старонку гэту...» І нічога не зраблю з сабою. Забуду пра іх, то Янка Купала падасць свой голас:

Край беларускі мірны,
сумны
Свой родны край ці помніш
ты?..

Стане спакайней — то Алесь Гарун нагадае пра сябе:

Сваіх тут жменьку я спісаў
Маркотных песняў-дум;
Маёй душы із сам спяваў
Па краю родным сум.

А там пайшло і пайшло: то Максім Багдановіч са сваім «Краю мой родны, як выклятты Богам», то Паўлюк Трус з «Дзесятым падмуркам».

Дзякуючы нашаму краязнаўцу, я даведаўся, якога маху далі ўсе гэтыя паэты. Мне чамусьці ўяўлялася, што яны славілі Беларусь. І толькі сёння я зразумеў, што яны пісалі ўсяго толькі пра «буйную адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку».

А калі гаварыць сур'ёзна, то і спадару з Геаграфічнага таварыства варта было б больш сур'ёзна адносіцца да нашай спадчыны — прытым не толькі літаратурнай, але і моўнай, тэрміналагічнай.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**
г. Менск.

# Запрашаем да супрацоўніцтва

Нягледзячы на маласпрыяльныя ўмовы для прадпрымальніцкай дзейнасці на Беларусі, неабходна ўжо зараз пачаць стварэнне менавіта сваіх нацыянальных па духу прадпрымальніцкіх структур. У процілеглым выпадку нават пры змене ўлады Беларусь не зможа стаць сапраўды незалежнай дэмакратычнай дзяржавай. Калі на Беларусі не будзе свайго класа беларускіх прадпрымальнікаў, то іх месца зоймуць камерсанты і бізнесмены іншых дзяржаў, якія, натуральна, у першую чаргу будуць дбаць аб інтарэсах сваіх народаў.

Нават калі пасля новых выбараў да ўлады прыйдзе сапраўды народны беларускі ўрад, які захоча мэтанакіравана стымуляваць тыя ці іншыя сферы бізнесу, неабходныя для эканомікі Беларусі, ён гэта зможа рабіць эфектыўна толькі тады, калі будзе мець дастаткова моцную апору сярод сваіх прадпрымальнікаў. У іншым выпадку іншаземцы будуць самі ўздзейнічаць на ўрад Беларусі і прымусяць яго альбо прыняць іх палітыку, альбо пайсці ў адстаўку.

Як вядома, працаваць і змагацца заўсёды лягчэй разам, таму ***Акцыянернае таварыства «КРОСНЫ»*** стварае банк інфармацыі аб нацыянальных кадрах і працоўных рэсурсах для іх актыўнага прыцягнення ў сферу прадпрымальніцтва. Гэта работа праводзіцца ў адпаведнасці са статутам нашага таварыства.

Акцыянернае таварыства «КРОСНЫ» запрашае да супрацоўніцтва не толькі прадпрымальнікаў, якія ўжо маюць свой бізнес, але і тых грамадзян, што толькі збіраюцца гэтым заняцца ці проста хочуць падзарабіць у вольны час.

Калі Вы жадаеце супрацоўнічаць з нашым таварыствам, запоўніце наступную анкету і дашліце на адрас:

220064, Рэспубліка Беларусь,
г. Менск, вул. Ландэра, д. 6, кв. 65,
Юрасю Пальчэўскаму.

*P. S.* Для вядзення справаводства і дзелавой перапіскі на беларускай мове мы можам прапанаваць беларускамоўны рэдактар «Белрэд», які мае набор беларускіх шрыфтоў, беларускі драйвер экрана і ўсе паведамленні выдае выключна на беларускай мове. Калі Вам неабходна распрацаваць іншыя беларускамоўныя праграмы для Вашага камп'ютэра ці беларусізаваць ужо існуючыя — мы рады Вам дапамагчы. Правядзенне ў жыццё ідэй беларускага Адраджэння — наша з Вамі агульная справа.

На даведкі звяртайцеся да Юрася Пальчэўскага па тэлефонах у Менску: **20-09-70 ці 39-88-43.**

### *АНКЕТА*

**1. Прозвішча, імя, імя па бацьку** . . . . . . . . . . . . . . .

**2. Год нараджэння** . . . . . . .
**3. Адукацыя** . . . . . . . . .
**4. Спецыяльнасць** . . . . . . .
**5. Дзе і кім працуеце** . . . . . . . . . . . . .

**6. Тэлефоны: хатні** . . . . . . ., **працоўны** . . . . . .
**7. Адрас** . . . . . . . . . . . . . . .
**8. Кім можаце працаваць і якія работы выконваць (пазначце: на поўную стаўку, па сумяшчальніцтву)** . . . . . . . . . . . . . .

**9. Якімі мовамі валодаеце (беларускаю, рускаю і інш.) і як добра** . . . . . . . . . . . . . .
**10. Якія сродкі вытворчасці маеце (машына, прычэп да машыны, такарны, свідравальны і інш. варштаты, вязальная, швейная і інш. машыны і г.д.)** . . . . . . . . . . . . .

**11. У набыцці якіх матэрыялаў, дэталей і г.д. можаце аказаць садзеянне** . . . . . . . . . . . . . .
**12. Якія канкрэтныя ідэі па прадпрымальніцтву можаце прапанаваць** . . . . . . . . . . . . . .

**Калі Вас цікавяць паведамленні аб беларускім прадпрымальніцтве ці Вы жадаеце выказаць наконт гэтага нейкія свае думкі, то дасылайце Вашы допісы на вышэй пазначаны адрас альбо ў рэдакцыю «Нашага слова» і ўважліва сачыце за наступнымі нумарамі газеты.**

*Патрыёты маўчаць не схацелі*

# Мы не злачынцы перад беларускім народам

ПАСЛЯ пахавання бацькі праездам з родных мясцін Браслаўшчыны я спыніўся на некалькі дзён у Менску. Мне заўсёды люба прайсціся па яго вуліцах і праспектах...

На гэты раз гарачыя дні канца ліпеня. Іду па гораду, бачу невялікія таблічкі на дамах перайменаванага праспекта — праспект Ф. Скарыны. Як многа значыць для нас, беларусаў, гэта імя... На будынках Дома ўрада, Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, на іншых дамах бел-чырвона-белыя сцягі. У кіёсках выстаўлены і прадаецца герб «Пагоня». Сталіца Беларусі рыхтуецца да свята — другой гадавіны Дня незалежнасці.

Нахлынулі ўспаміны далёкага і драматычнага мінулага. Усплывалі перад вачыма фрагменты падзей 45-гадовай даўнасці, калі мы, група студэнтаў Пастаўскага педвучылішча, ахопленыя нацыянальным, патрыятычным памкненнем да абароны правоў і інтарэсаў беларусаў, да сваёй культуры, гісторыі, мовы і незалежнасці, сабраліся ў невялікай хаціне ў вёсцы Раменькі (каля Пастаў) у адзін з сакавіцкіх вечароў 1946 года і прысягнулі перад бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняю» на вернасць служэння свайму народу, што паклала пачатак стварэнню падпольнай арганізацыі «Саюз беларускіх патрыётаў» (СБП), вызначылі задачы і мэты сваёй дзейнасці.

І цяпер, калі Беларусь стала незалежнай дзяржавай, калі яе незалежнасць прызнала больш за 100 краін свету і звыш 50 устанавілі дыпламатычныя адносіны з ёй, з'явілася пачуццё гордасці і поўнай задаволенасці ад таго, што мы, 16—18-гадовыя юнакі і дзяўчаты, будучыя настаўнікі беларускіх дзяцей, магчыма, першымі ў пасляваенныя гады не схацелі маўчаць і паднялі свой голас пратэсту супраць насілля над народам, яго свабодай і гісторыяй, культурай, заплаціўшы за гэта маладосцю, здароўем, а некаторыя і самім жыццём, у сталінскіх лагерах і ссылках.

А колькі загублена талентаў, якія маглі паслужыць свайму народу, навуцы, культуры...

Члены СБП былі неардынарнымі асобамі. Яны былі гордасцю педвучылішча. Не толькі выдатна вучыліся, але і былі душой студэнцкага калектыву, завадатарамі цікавых спраў і вечарын. У свае 16—18 год гэта былі людзі з акрэсленай жыццёвай пазіцыяй, упэўненыя ў правільнасці прадвызначанага шляху. Усе яны рыхталіся быць настаўнікамі — выхоўваць верных сыноў і дачок нашай Бацькаўшчыны.

Нягледзячы на пасляваенную нястачу, стараліся вучыцца, між сабою дзяліліся апошнім кавалкам хлеба. І былі па-юнацку вясёлыя. З верай у будучае мы і вучыліся, і весяліліся, і сталі на шлях змагання.

У педвучылішчы і на кватэрах ладзілі вечарыны, на якія збіралася шмат моладзі. Вечарыны не мелі адбітку палітычных мітынгаў. Тут было месца і дасціпнаму жарту, і роднай песні, і танцам. Члены нашай арганізацыі былі душой вечарын, што ладзіліся і на вёсцы, калі мы бывалі дома. Толькі стараліся неназойліва, натуральна ў час гутарак расказаць што-небудзь са слаўнай гісторыі Бацькаўшчыны, пра знакамітых беларусаў.

Я ішоў па праспекце Ф. Скарыны і ўспамінаў сваіх сяброў, чалавечыя якасці якіх давалі мне сілу і моц у самыя цяжкія гады майго жыцця.

Я думаю, што Мікалай Асіненка, адзін з кіраўнікоў Пастаўскага СБП, пэўна, стаў бы вядомым паэтам. У яго быў несумненны паэтычны дар. Успамінаецца, што на выпускным экзамене замест звычайнага сачынення, як гэта патрабавалася, напісаў паэму пра Беларусь, яе культуру і прыроду. У студэнцкія гады ім было напісана многа патрыятычных вершаў і паэм. Да таго ж гэта быў лепшы спартсмен не толькі педвучылішча, але і горада Паставы, цудоўны арганізатар спартыўных і культурных мерапрыемстваў. Энергічны, мэтанакіраваны, заўсёды аптымістычна настроены юнак. Надзейны таварыш і сябра. Жыццёвы лёс звёў нас разам пасля суда ў адным з лагераў на Калыме. Ён аказваў мне вялікую дапамогу і духоўную і матэрыяльную, за што я бясконца ўдзячны.

І там, у сталінскіх лагерах ён не растраціў сваіх юнацкіх якасцей і перакананняў. Вельмі шкада, што на складаных жыццёвых дарогах мы згубілі адзін аднаго, і я нічога не ведаю пра яго далейшы лёс.

Стаpанны і сціплы Віктар Стахоўскі таксама, відаць, быў бы вядомым паэтам або мастаком. Зробленыя ім наглядныя дапаможнікі, аформленыя насценныя газеты, яго вершы запомніліся многім. Выдатнік вучобы. Добры таварыш і верны сябра.

Мой аднакурснік Павел Лапушынскі меў незвычайныя здольнасці па матэматыцы, аналітычны склад розуму. І вядома, цудоўны сябра.

Іван (Янка) Рымдзёнак — прыроджаны культмасавік, канферансье, недасяжны танцор і «кавалер». Высокі, элегантны, вясёлы, добры і таварыскі. Па водгуках, быў добрым настаўнікам і паважаным чалавекам на вёсцы і сярод моладзі і дарослых.

Уладзімір Лысёнак—сур'ёзны, мэтанакіраваны юнак. Нашы гулагаўскія дарогі скрыжаваліся двойчы за 8 год. Першы раз я сустрэўся з ім на лесапавале (Свярдлоўская вобласць), куды я папаў пасля года адсідкі ў зоне ўзмоцненага рэжыму за ўчынены пабег. Я быў змарнелым і знясіленым. І Валодзя літаральна стаў маім выратавальнікам, дзяліўся апошнім лагерным кавалкам хлеба і апошняй лыжкаю кашы, не гаворачы ўжо пра пасылкі, што часам атрымліваў ад бацькоў, якія мацней стаялі на нагах у параўнанні з маімі.

А другі раз мы сустрэліся ў адным з лагераў Нарыльска. Тут ужо я меў магчымасць яму дапамагчы.

Мы і ў лагеры, як і ў юнацтве, засталіся надзейнымі сябрамі і нічога не растрацілі за катаржныя гады.

Я бясконца ўдзячны яму, высока цаню яго дапамогу і помню ўсё. Вельмі шкада, што звестак пра яго жыццё не маю. Ведаю толькі, што ён застаўся ў Нарыльску.

Аляксандр Дзікі. Выдатнік вучобы. Гэта быў дужы, каржакаваты юнак з пранізлівым, цвёрдым позіркам бліскучых вачэй. Філасофскі склад розуму, з уласнымі меркаваннямі і пераканаңнем. З такіх, відаць, атрымліваюцца выдатныя дыпламаты або юрысты. Выключны сябра.

Незвычайнай дзяўчынай была Ніна Асіненка — верная сяброўка Міколы Асіненкі.

Многіх юнакоў і дзяўчат, па ўмовах канспірацыі, я не ведаў. Несумненна, яны таксама былі такімі ж высакароднымі, дужымі, разумнымі, адданымі свайму народу і ахвяравалі сваю маладосць, здароўе той справе, якая толькі пачынае ажыццяўляцца зараз, у свабоднай і незалежнай Беларусі.

Але як крыўдна і журботна, што да гэтага часу правасуддзе незалежнай Беларусі не звярнулася да матэрыялаў тых працэсаў, якія былі ў Менску 16—20 чэрвеня 1947 года і пазней у Полацку над маладымі абаронцамі правоў і годнасці беларускага народа. Яны не злачынцы перад беларускім народам. Іх «справы» былі сфабрыкаваны берыеўскай ахранкай таталітарнай структуры так, як гэта ім было патрэбна. Сёння гэтая структура асуджана народам і знішчана.

Хочацца спадзявацца, што тыя, хто яшчэ жыве, дачакаюцца таго часу, калі з іх будзе знята пячатка «ворагі народа» і справядлівасць возьме верх. Усе мы будзем рэабілітаваны.

На заканчэнне хочацца сказаць шчыры дзякуй газеце «Наша слова», якая прыкладае намаганні ў адраджэнні гістарычнай праўды ў трагічным лёсе найбольш свядомай беларускай моладзі ў гады таталітарнага рэжыму, спадару Васілю Супруну за яго артыкул «Патрыёты маўчаць не схацелі!», што стаў рубрыкай газеты, усім, хто адгукнуўся.

**Аляксандр АДАМОВІЧ.**

г. Тула.

*Чыталі?*

# На жыццёвым шляху

Шырокаму колу чытачоў Беларусі жанр мемуараў больш знаёмы па ўспамінах партызанскіх кіраўнікоў. Заідэалагізаванасць грамадскага жыцця ў недалёкім мінулым найперш выразна адбілася на дакументальна-публіцыстычнай літаратуры. А калі што і прабівалася ў друк з роспавядаў пра пачатак нашага стагоддзя, то з мноствам купюраў, «белых плям», пропускаў падзей, імёнаў. Таму сёння заўжды з нейкім чаканнем гартаеш выдавецкія планы, знаёмішся са зместам «тоўстых» літаратурна-мастацкіх часопісаў: а раптам — новыя, невядомыя дагэтуль факты...

Безумоўна, кніга ўспамінаў Янкі Багдановіча «На жыццёвым шляху», выдадзеная сёлета ў «Мастацкай літаратуры», не ўскалыхне грамадскі рух, не зменіць палітычную сітуацыю на Беларусі. Ды і наўрад ці шмат каму зараз знаёма імя гэтага віленскага беларуса, на вялікі жаль, ужо нябожчыка (памёр у 1990 годзе).

Янка Багдановіч пражыў вялікае жыццё, адолеў мноства выпрабаванняў. Асабліва багатым на сустрэчы з беларускімі дзеячамі былі маладыя гады Івана Антонавіча. У кнізе мы маем магчымасць сустрэцца з Радаславам Астроўскім і Язэпам Германовічам, з Хведарам Ільяшэвічам і Макарам Краўцовым, з Янкам Пазьняком і Аркадзем Смолічам, з Адамам Станкевічам і Янкам Шутовічам, ды шмат з кім яшчэ. Прыкметна, што аўтар не імкнецца даваць сваім сучаснікам палітычныя ацэнкі. Ён расказвае пра самых розных людзей, зыходзячы з уласных уражанняў, з тагачаснага свайго бачання. Няхай у гэтых поглядах адлюстраваны і надзвычайны суб'ектывізм, часам абумоўлены матэрыялам толькі нямногіх прыватных сустрэч, тым не менш, мемуары Янкі Багдановіча — найцікавейшая ілюстрацыя да даследчыцкіх росшукаў.

Віленскі беларус знаёміць з падзеямі дваццатых — трыццатых гадоў. На мой погляд, найбольш ёмісты, важкі для гісторыі беларускай культуры нарыс «Беларускі прытулак у Вільні і Віленская беларуская гімназія». Распавядаючы пра спатканні, а часам і шматразовыя сустрэчы з настаўнікамі, са святарамі, Янка Багдановіч акрэслівае стаўленне іх да беларушчыны, да беларускага народа, яго культуры.

Вядома, далёка не ўсё з беларускасцю ішло гладка ў тагачасную пару. «Першым дырэктарам (Віленскай беларускай гімназіі — Г. Ц.) быў Кахановіч, ці Каханоўскі, — добра не прыпамінаю, — піша Янка Багдановіч. — Вельмі добра выкладаў гісторыю, гэта ягоная спецыяльнасць. Сам дырэктар быў беларус, а жонка полька і то нават шавіністка, не любіла і часта гаварыла, што ў яе жывот баліць, калі гавораць па-беларуску». Польскі ўрад мэтанакіравана праводзіў паланізацыю ўсходніх крэсаў. Вынікі той палітыкі ў нас перад вачыма і зараз.

З цікавасцю пазнаёміцца чытацкае кола і з нарысам Янкі Багдановіча «Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні». Аўтар успамінаў знаёміць з друкарамі, з умовамі працы, піша без прыхарошванняў. Падае ён і сваё тлумачэнне, чаму «ў Заходняй Беларусі выходзіла вельмі мала газет, часопісаў, нягледзячы на яе насельніцтва — не менш трох мільёнаў». І вось чаму:

«1. Польскія паны і паліцыя праследавалі беларусаў.

2. На беларускіх землях праводзілася поўная паланізацыя беларускага насельніцтва.

3. Касцёл, абсаджаны польскімі ксяндзамі, праводзіў сярод беларусаў аграмадную палітыку паланізацыі.

4. Школ было вельмі мала, і тыя пад наглядам польскіх уладаў.

5. Беларускае насельніцтва было вельмі беднае, не мела грошай і не магло дапамагчы ў выдавецтве беларускай прэсы...»

15 ліпеня 1990 года Янкі Багдановіча не стала. Але яго ўспаміны, якія пісаліся ў асноўным у 70-ыя гады, убачылі свет пад адной вокладкай. Многія людзі старэйшага веку, адыходзячы, забіраюць з сабой багатую памяць. А мы, якія дзесяцігоддзямі пісалі толькі летапіс партызанскай вайны, забываемся, праходзім узбоч гісторыі культуры, літаратуры, гісторыі свайго народа. Дагэтуль яшчэ не выдадзены, напрыклад, кніжкай успаміны Зоські Верас, раскіданыя па старонках «Полымя», беластоцкіх «Нівы» і «Беларускага календара». Не сабраны ў кнігу публікацыі, успаміны беларускага акцёра Зыгмунта Абрамовіча — аднаго з вядучых выканаўцаў драматычнай трупы Ігната Буйніцкага. А ўсё гэта — яскравыя сведчанні працы на беларускай ніве, жывыя дакументы пра лёс беларускага народа.

**Ганна ЦІТАЎКА.**

# Добры пачын падтрыманы

Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі запланавала выпуск серыі трохмоўных перакладных слоўнікаў. Першым выйшаў у 1988 г. «Нямецка-беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй У. Марціноўскага і П. Садоўскага, разлічаны на настаўнікаў, вучняў агульнаадукацыйных сярэдніх школ, навучэнцаў спецыяльных навучальных устаноў, студэнтаў-філолагаў. У 1990 годзе з'явіўся «Англа-беларуска-рускі слоўнік» пад рэдакцыяй Т. Сушы і А. Шчукі, у які былі ўключаны найбольш ужывальныя словы і словазлучэнні сучаснай англійскай мовы. І вось зусім нядаўна, нягледзячы на пэўныя фінансавыя цяжкасці, недахоп паперы, свет убачыў чарговы трохмоўны «Французска-беларуска-рускі слоўнік» пад агульнай рэдакцыяй дацэнта Менскага інстытута замежных моў, кандыдата філалагічных навук С. М. Батуры. Выданне ўключае каля 7 тыс. слоў і прызначана для перакладу на беларускую і рускую мовы нескладаных французскіх тэкстаў. З гэтай серыі трохмоўных перакладных слоўнікаў няма пакуль што іспанска-беларуска-рускага. Але вядома, што спецыялісты працуюць над яго складаннем, таму будзем чакаць і яго з'яўлення на паліцах нашых кнігарняў.

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# Віншуем!

# Пімену ПАНЧАНКУ—75!

*23 жніўня споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі.*

*У 1934 годзе Пімен Панчанка скончыў педагагічныя курсы ў Бабруйску, а ў 1939 годзе — Менскі настаўніцкі інстытут. Працаваў настаўнікам у школах на Магілёўшчыне, пасля вайны — у часопісе «Вожык» і газеце «Літаратура і мастацтва». Быў галоўным рэдактарам часопісаў «Советская Отчизна» (1954—1958) і «Маладосць» (1958—1966). У 1966—1971 гадах — сакратар праўлення СП Беларусі.*

*З першымі вершамі ў друку Пімен Панчанка выступіў у 1934 годзе. У 1938 годзе выйшла першая кніжка «Упэўненасць», за ёй — «Вераснёвыя сцягі» (1940), «Дарога вайны» (1943), «Далёкія станцыі» (1945). Многія творы гэтых кніг напоўнены горыччу расстання з Беларуссю, верай у яе вызваленне, любоўю да свайго народа.*

*Пімен Панчанка, знаходзячыся з войскамі ў Іране (1944—1945), напісаў цыкл вершаў «Іранскі дзённік». Пасля вайны паэт выдаў кнігі паэзіі «Гарачыя вятры», «Вершы», «Прысяга», «За шчасце, за мір!» і іншыя.*

*З'явай у беларускай паэзіі стала кніга вершаў Пімена Панчанкі «Пры святле маланак», за якую ў 1968 годзе паэту была прысуджана Дзяржаўная прэмія Беларусі імя Я. Купалы.*

*У кнігах «Снежань» (1972), «Крык сойкі» (1976), «Вячэрні цягнік» (1977), «Дзе начуе жаўранак» (1979), «Маўклівая малітва» (1981), «Лясныя воблакі» (1985) Пімен Панчанка адкрыта спавядаецца перад сваім народам. Паэт абвострана адчувае пульс жыцця, паэтычным радком змагаецца супраць дэмагогіі, прыстасавальніцтва, хлусні, абыякавасці, радуецца абуджэнню народа, які хоча жыць у назалежнай краіне.*

*Пімен Панчанка вядомы не толькі як цудоўны паэт, але і як перакладчык твораў Ф. Шылера, А. Міцкевіча, Я. Райніса, А. Пракоф'ева, М. Нагнібеды і іншых. Пімен Панчанка з'яўляецца аўтарам многіх літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў, успамінаў пра Я. Купалу, Я. Коласа, А. Куляшова...*

*Пімен Панчанка і сёння актыўна ўдзельнічае ў грамадскім і культурным жыцці Беларусі. Сваімі новымі творамі ён адгукаецца на ўсе падзеі ў нашай краіне, якія закранаюць душу паэта. Ён з намі радуецца незалежнасці Беларусі, балюча прымае да сэрца чарнобыльскую трагедыю.*

*Віншуючы Пімена Емяльянавіча з 75-годдзем з дня нараджэння, жадаем добрага здароўя, доўгіх і плённых гадоў творчага жыцця і ўсяго самага найлепшага.*

***Пімен ПАНЧАНКА***

## Не адцураюся, не адракуся

*«...Народный поэт республики Пимен Панченко принародно распростился с родным языком, перестал писать по той причине, что древний белорусский язык теряет сферу своего употребления...»*
**В. БЫКАЎ.**
*11 чэрвеня 1988 г.*

Дружа Быкаў,
Не трэба дзяшовых сенсацый:
Я — сірата
Без маёй Беларусі.
Ад роднай мовы,
Ад роднай нацыі
Не адцураюся,
Не адракуся!

Я не журуся
Пра казачны век залаты,
Я не захоплены
І старажытнасцю моднаю...
І напісаў не аб тым я,
А толькі аб тым:
З ласкі чыноўнікаў
Родная мова ў наморднiку.

Што за няшчасная
Беларуская нацыя!
Што за пакорлівы
Родны народ:
Паланізацыя, русіфікацыя,
Германізацыя —
І заўсёды прыгнёт.

А былі ж партызаны,
Пераможна грымелі баі,
Гарэла зямля
Пад нагой акупантаў.
Падмянілі народ:
Былі ў нас працавітыя ўсе,
А цяпер — гультаі, халуі...
І на горкую памяць
Падкінулі нам Курапаты.

Страцілі мы
Беларускіх настаўнікаў:
Царскіх чыноўнікаў
Дух уваскрос.
Выкладчыкам рускай —
Большыя стаўкі,
А беларускай —
Дулю пад нос.

Куды падацца
Вучням з беларускай?
Ляны бюракрат
Заткнуў усім ім рот.
У нашы ВНУ
Праход занадта вузкі:
Па званку,
Па блату
Ці за хабар
Прэ прабіўны народ.

Беларускай мовы
Пачалі стыдацца,
Загналі ў ансамблі
Песні дзіўнае красы...
Хоць скаргу падавай
У Аб'яднаныя Нацыі:
Моўны генацыд,
Як у даўнія часы.

Дзеці ўжо не ведаюць
Родныя назвы
Кветак і птушак,
Кустоў і травы.
Яны не адрозняць
Граба ад вяза,
Дзе жаўна, дзе пліска,
А дзе журавы?

Адлучылі ад прыроды...
Не шукаюць унукі слядоў
Ні сваіх франтавых дзядоў,
Ні далёкіх і страшных гадоў.
І рыканне кароў,
І рык звяроў,
І сусветная рок-істэрыка —
Толькі па тэлеку,
Толькі па тэлеку.

І вас, тупалобыя
Душыцелі мовы,
Бог пакарае:
Высокія крэслы,
Пасады і прывілеі —
Знікнуць усе дачыста;
Станеце зноў жыхарамі
Паўночна-Заходняга краю:
Ні ЦК,
Ні Вярхоўнага Савета,
Ні Савета Міністраў!

...Да роднай зямлі я
Душою і сэрцам прыкуты,
Куваюць зязюлі,
Клякочуць буслы на маёй
Беларусі.
Ты радасць мая, Беларусь,
Ты гора маё і пакута,
І ад цябе я ніколі
Не адцураюся,
Не адракуся!

1988 г.

* * *

Якою прыснiў ты маці
З далёкай зямлі маленства?

На полі з сярпом і песняй,
З усмешкай блакітнавокай.

Ввдзе ў першы клас цябе
горда,
Ты кветкі ў руцэ трымаеш.

Гармідар гусіны на ферме,
І маці ў белым халаце.

Парэпаны рукі цяжкія
Ці ярка гараць завушніцы.

Ляжыць забітая ў снезе
Пад вогненным дымным небам.

Адна, пастарэлая ў горы,
Ці з добрым лагодным
бацькам.

Якою прысніцца маці,
Такою і будзе песня.
















мал. Л. Шніп • **ВІТАЎТ** • беларускае народнае паданне • З кнігі «Легенды і паданні» Мінск-83, НіТ.



























